## ЗЬМЕСТ




**НАШЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ**

**ЗША**

Miss L. Michalcyk, 1211 Starkweather Ave., Cleveland, Ohio

Mr. A. Karol, 30 Easton Ave., New Brunswick, N. J.

Mr. M. Kuczura, 1217 N. Wolcott Ave., Chicago 22, Illinois

Mr. I. Laszkiewicz, Summer St., N. E, Minneapolis 13, Minn.

Miss S. Pleskacz, 17574 Brush Ave, Detroit 3, Mich.

Mr. M. Sienka, 24 Herman St., South River, N. J.

**Канада**

Mr. U. Baranovich, 111 Lindsey Ave., Toronto, Ontario

Mr. K. Karanieuski, 143 Cathleen St., W, Sudbury, Ont., Canada.

Mr. B. Lisconak, 472 Bayron Court, Oshawa, Ontario.

Mr. M. Silvanovic, 128 Wallnut St., Winnipeg 10, Manitoba, Canada.

**Ангельшчына**

Mr. A. Laszuk, 97 Moore Park Road, London S. W. 6

**Бэльгія**

Mr. U. Bakunovic, 19 Place Hoover, Louvain

**Аўстралія**

Mr. W. Akavity, 80 Tapleys Hill Rd., Royal Park, S. A.

Mr. M. Nikan, 14 Steel St., Spotswood, Victoria

Mr. A. Vasilenia, 39 Edwin St., Croydon, New South Wales.

**Францыя**

Mr. V. Mickievic, 49 Bd de Bezons, Sartrouville (S. et O.) France.

Адрыс рэдакцыі: „Беларуская Моладзь", 401 Atlantic Ave., Brooklyn 17, N. Y.

Гадавая падпіска у ЗША й Канадзе — $2. Грашовыя пераказы выстаўляць на: "BYELORUSSIAN YOUTH"

Byelorussian Youth Association of America, 401 Atlantic Ave., Brooklyn 17, N. Y.



# БЕЛАРУСКАЯ МОЛАДЗЬ

**Квартальны часапіс беларускага маладога пакаленьня ў Амэрыцы**

**Выдае: Згуртаваньне Беларускае Моладзі ў Амэрыцы**

**Рэдагуе: Калегія**

**Год. выд. II.** **САКАВІК—ЧЫРВЕНЬ 1960 г.** **№ 6**


## 9-Ы ЗЬЕЗД ЗБМА

У дні 3—5 верасьня (Labor Day) у Кліўленьдзе адбудзецца 9-ы Гадавы Зьезд Згуртаваньня Беларускае Моладзі ў Амэрыцы.

У праграме:

**Афіцыйная частка:** справаздачы, выбары, пляны працы.

**Спорт:** валейбол — дзявочы й хлапецкі.

**Канцэрт і вечарына.**

Большая частка Зьезду ЗБМА пройдзе ў сыботу 3-га верасьня. У нядзелю: высьвячэньне новае царквы БАПЦ у Кліўленьдзе ды афіцыйная частка Зьезду Беларусаў Паўночнае Амэрыкі.

Дзядоў нашых душылі абшары лясоў
Не давалі разжыцца праўдзівым жыцьцём,
І яны тыя пушчы звадзілі агнём,
Іх кругом падпаліўшы з далёкіх канцоў.

І палалі па нашай краіне лясы,
Пакуль сонца здалела ўсё ў ёй асьвяціць;
І сьвятлей, прастарней тады стала тут жыць,
А на попеле буйна ўзрасьлі каласы.

З тых суворых дзядоў прыклад нам-бы узяць, —
Ня хіліцца зь бяды, ня пужацца агня,
Бо мы толькі тады дачакаемся дня,
Калі нас не здалее змаганьне зьлякаць.

***

Рушымся, брацьце, хутчэй
Ў бой з жыцьцём, пакідаючы жах,
Крыкі пужлівых людзей
Ня стрымаюць хай бітвы размах...

Проці цячэньня вады
Зможа толькі жывое паплыць,
Хвалі-ж ракі заўсягды
Тое цягнуць, што скончыла жыць.

*Максім Багдановіч.*

# РАЗВАЖАНЬНІ ПЕРАД ГАДАВЫМ ЗЬЕЗДАМ

Ужо 9 год мінае сёлета ад пачатку дзейнасьці Згуртаваньня Беларускае Моладзі ў Амэрыцы! Дзевяць год — гэта-ж блізу адна дзясятая частка стагодзьдзя!

Прайснаваўшы такі ладны кавалак часу, сяньня нам пара ўжо глянуць на тое, што мы зрабілі, добра прыглядзецца да таго, што мы цяпер робім, і папытацца ў сябе: якія нашыя мэты ў будучыні?

Футбольныя здабыткі беларускае моладзі ў Амэрыцы, выступы зь беларускімі танцамі й песьнямі на тэлевізіі й міжнародных фэстывалях, прапагаваньне ідэі вызваленьня Беларусі сярод амэрыканскае публікі, экскурсіі, спартовыя сустрэчы, выдаваньне часапісу, бадай закончаны песеньнік — гэта нашыя дасягненьні за дзесяць год; імі можна заправу̂ды ганарыцца.

Наагул, ад самага пачатку ЗБМА найбольш працавала ў кірунку прапагаваньня беларускае справы навонкі. І цяпер на гэта маем найбольшую ўвагу. Аднак, час не стаіць, — а зь ім мяняюцца й абставіны, у якіх мусіць працаваць ЗБМА. 9 год таму арганізацыю заснавала моладзь нацыянальна сьведамая, што брала ўдзел у беларускім арганізацыйным жыцьці яшчэ на Бацькаўшчыне, або ў лягерах Нямеччыны. Гэтыя сябры й сяброўкі й дасюль кіруюць арганізацыю. Але штогоду іх робіцца менш, ды іхная актыўнасьць у ЗБМА меншае. Адны бяруць на сябе дадатковыя грамадзкія абавязкі, другія больш занятыя сямейнымі клопатамі, іншыя зноў выехалі зь беларускіх асяродкаў, шукаючы працы...

У тых аддзелах ЗБМА, дзе добра вядзецца праца, цяпер зьяўляецца „другая зьмена" — малодшыя, што вырасьлі ўжо ў Амэрыцы. Яны, жывучы ў беларускіх асяродках і бачачы дзейнасьць арганізаванай моладзі, зацікавіліся да яе й увайшлі ў ЗБМА. Гэта нашыя будучыя кіраўнікі. Ад іх, ад іхнай дарыхтаванасьці й актыўнасьці залежыць будучыня ЗБМА. Ад іх залежыць, ці яшчэ за 5 год ад сяньня арганізацыя будзе расьці лікам сяброў і дасягненьнямі, ці наадварот — саслабне.

Прыход гэтае „другое зьмены" павінен мець вялікі ўплыў на тое, што ЗБМА робіць сяньня. Здаецца, зусім ясна: каб запэўніць існаваньне арганізацыі ў будучыні, трэба як найбольш часу праводзіць у працы з малодшымі сябрамі, — рыхтаваць іх да таго, каб яны самі маглі пакіраваць дзейнасьць беларускае моладзі — сваіх равесьнікаў.

Нажаль, добра прыглеадзеўшыся, пабачым, што такой працы праводзіцца сяньня ў ЗБМА вельмі мала. Арганізацыя часта шмат вымагае ад сваіх сяброў (прыкл. для рэпрэзэнтацыі навонкі), а мала ім дае ўзамену. Трэба, каб у ЗБМА моладзь мела магчымасьць правесьці свой вольны час лепш, цікавей і карысьней, чымся ў штодзённым асяродзьдзі, ці ў іншых арганізацыях.

Як можна цікава правесьці вольны час? — Калі і пагуляеш, і нечага новага навучышся. Вось гэтыя два галоўныя заняткі й трэба зрабіць даступнымі кажнаму сябру ЗБМА. Якія гэта могуць быць заняткі? Арганізаваны спорт, вечарыны, экскурсіі, кароткія фаховыя й беларускія курсы, рыхтаваньне беларускіх п'есаў, вывучэньне беларускіх народных танцаў і песьняў ды шмат іншага. Гэтыя заняткі павінны быць унятыя ў добра

(Працяг на бал. 4)



**Моладзь у гісторыі Беларусі**

# МАКСІМ БАГДАНОВІЧ

**(1891-1917)**



Максім Багдановіч — клясык нашае літаратуры. Пражыўшы ўсяго 26 гадоў, ён пакінуў па сабе літаратурную спадчыну, незраўнаную сваім харастивом ды глыбінёю нацыянальнае й агульналюдзкое думкі. Максім Багдановіч — вялікі мастак слова й празорлівы літаратурны крытык. Максім Багдановіч — філёзаф, удумлівы назіральнік жыцьця. Максім Багдановіч — адзін з найвыдатнейшых прадстаўнікоў беларускае моладзі — сябра нам сваім векам і прыклад нам сваім плённым жыцьцём.

У Максіма Багдановіча, больш чымся ў каго іншага ёсьць супольнага зь беларускай моладзяй на чужыне. Жыцьцё паэты ў бальшыні прайшло таксама далёка ад роднага краю, у Расеі. На чужыне ён і памёр ад сухотаў. Пахаваны ў Ялце на Крыме.

Пакінуўшы разам з бацькамі Беларусь шасьцігадовым хлапчуком, будучы паэта апынуўся ня толькі ў чужым асяродзьдзі, але й у чужой расейскай школе. Аднак, малады Багдановіч нагэтульки выявіў замілаваньне да роднага краю й свайго паняволенага народу, што наўсуперак ўсёй няспрыяльнасьці чужыны, застаўся шчырым беларускім патрыётам і самаахвярным працаўнікам беларускае культурнае нівы.

Каму з нас няведама, што нялёгка захоўваць скарбы нацыянальные душы на завілых і спакусьлівых дарогах чужыны. Як цяжка перахоўваць родную мову й традыцыі! Колькі працы трэба ўкладаць у вывучэньне роднага краю, каб, добра ўзброенаму ведаю пра свой народ, годна абстойваць ягоныя правы!

Максім Багдановіч, які гарэў жаданьнем прынесьці свой уклад у беларускую нацыянальную скарбніцу, дасканальна ведаў пра ўсё гэта. Адарваны ад Беларусі, малады паэта мусіў працаваць з падвойным высілкам для пазнаньня свайго краю. Ад гэтае патрэбы напорыстае й сыстэматычнае працы над сабой ідзе й ягонае твор-

*Купі сабе „Вянок" — збор выбраных твораў Максіма Багдановіча, што выйшаў нядаўна ў выдавецтве „Бацькаўшчына". Кніжку можна набыць праз рэдакцыю „БМ". Цана — 3 дал. (у мяккой вокладцы) і 4 дал. (у цьвярдой апраўе).*

чае крэда, пакінутае якраз нам, паэтавым „маладым братом":

Ведай, брат малады, што ў грудзёх
у людзей
Сэрцы цьвёрдыя, быццам з каменьня.
Разаб'ецца аб іх слабы верш заўсягды,
Ня збудзіўшы сьвятога сумленьня.

Трэба з сталі каваць, гартаваць гібкі
верш,
Абрабіць яго трэба зь цярпеньнем.
Як ударыш ты ім, — ён, як звон,
зазьвініць,
Бырзнуць іскры з халодных ка-
меньняў.

Так, трэба каваць із сталі, трэба абрабляць зь цярпеньнем. Каваць і апрацоўваць ня толькі вершы — датычыць, ца гэта й да выкоўваньня нашых характараў, паглыбляньня беларусаведы,умацоўваньня нашага гарту ў служэньні свайму народу, як гэта рабіў паўстагодзьдзя таму наш сябра Максім Багдановіч.

**Аркадзь Будзіч.**

**РАЗВАЖАНЬНІ . . .** (працяг з бал. 2)

выпрацаваную **праграму й сыстэматычна** праводзіцца. А галоўнае: не павінна **быць ніводнага сябры, які ня** меў-бы ад іх карысьці. Праграма ЗБМА павінна зацікавіць сяброў і заахвоціць **староньнюю беларускую мо**ладзь увайсьці ў арганізацыю. Аднным словам: больш працаваць із сябрамі, — бо ад гэтага залежыць наша будучыня, як арганізацыі.

Можа нехта папытаецца: дзе на гэта знайсьці час і дарыхтаваных людзей?

Час знайсьці ня так цяжка, як здаецца. Ужо колькі год, як кіраўніцтва **ЗБМА, як галоўнае, так і ў некато**рых аддзелах, займаецца ўсё больш „прапагандай навонкі" (выпушчаньнем кніжак, значкоў, паштовак, радыёперадачамі). Усе гэтыя, карысныя **для беларускаа грамадзтва справы,** маюць тое супольнае, што ад імя ЗБМА над імі працуе толькі пару асобаў, — на няшчасьце якраз галоўныя і мясцовыя кіраўнікі. У выніку гэтага навонкі прєстыж ЗБМА уздымаецца, а ўнутры арганізацыя слабее, бо кіраўніком не стае часу на працу зь ся**брамі.**

Новых кіраўнікоў трэба знайсьці сярод малодшых сяброў ЗБМА, даўшы ім адпаведнае вышкаленьне. Чаму не наладзіць улетку (прыкладам на фарме сп. Бобрыка) аднатыднёвы курс для ўзрыхтаваньня кіраўнікоў і выпрацаваньня праграмы на наступны сэзон? Пажадана, каб аддзелы ЗБМА перадавалі больш адказных абавязкаў малодшым сябром, ды наагул прывучалі іх да аранізацыйнага жыцьця. Некаторыя малодшыя сябры вельмі цікавяцца тым, як працуе арганізацыя, часта падаюць свае заўвагі **й прапановы, нярэдка крытыку**юць тое, што робіцца. Ім трэба даць магчымасьць выказаць свае думкі — выслухаць іх, разам зь імі направіць, калі нешта не ў парадку. Нельга забывацца, што за пару год ЗБМА будзе належаць да іх.

Наадварот, ігнараваньне думак пасобных сяброў можа выклікаць у іх зьнеахвочаньне й пасыўнасьць. Ня маючы надзеі, што ягоны выступ „супраць" дасьць вынікі, ці адзін здольны й зацікаўлены сябра стыгне й нарэшце можа зусім пакінуць арганізацыю.



# XVII АЛІМПІЯДА У РЫМЕ

Ужо даўгі час спартавікі цэлага сьвету трэнуюцца, каб сваёй фізычнай здольнасьцяй здабыць сабе падарожжа ў Рым, дзе сёлета ў жніўні адбудуцца 17-ыя Алімпійскія гульні.

Алімпійскія гульні пачаліся яшчэ 1000 гадоў перад нараджэньнем Хрыста у старавечнай Грэцыі. Моладзь брала ўдзел у гульнях з мэтаю паказаць сваю здольнасьць і сілу цела й духу перад багамі й людзьмі.

Абыходжаньне алімпіядаў трывала болей як тысячу гадоў, і толькі з заняпадам Грэцыі былі спыненыя ў 394-ым годзе.

З адраджэньнем грэцкага гаспадарства ў мінулым стагодзьдзі пачынаюцца спробы аднаўленьня спартовых гульняў, і ў 1896 г. адбываецца першая так званая мадэрная алімпіяда ў Атэнах. Пасьля яе гульні адбываліся што чатары гады, за выняткам ваенных гадоў, па большых местах сьвету. Зімовыя гульні ўвайшлі ў праграму ў 1924 г. і сёлета адбыліся ў Скво-Волы, у ЗША.

17-я Алімпіяда будзе найвялікшай дасюль з удзелам пакуль што 88 краёў, пачынаючы ад Амэрыкі й Савецкага Саюзу ды канчаючы на Сурыname й Угандзе. У праграме — усе сусьветна папулярныя віды спорту: лёгкая й цяжкая атлетыка, гульні ў мячыка, вадзяны спорт ды іншыя. Каб ахапіць такую шырокую праграму ў даволі кароткім часе, па цэлым сьвеце праводзяцца выбары найлепшых спартавікоў.

У лёгкай атлетыцы кажнае гаспадарства мае права на аднаго прадстаўніка ў дадзенай галіне. Але, каб забясьпечыць максымальны ўдзел трох асобаў, спартавікі мусяць выканаць назначаныя нормы. Узровень нормаў вельмі высокі; прыкладам, паводля вынікаў алімпіяды 1948 г., 16 чэмпіёнаў ня мела-б права ўдзелу сёлета.

Прадбачваюцца наступныя вынікі: у кароткіх бегах, скачках, кіданьні дыскам і куляй будуць пераважаць Амэрыканцы. Усходняя Эўропа й Аўстралія будуць змагацца за пяршынство ў даўгіх бегах. У кіданьні молатам на залаты мэдаль прэтэндуюць беларускія чэмпіёны Рудзянкоў і Крыванасаў разам з Амэрыканцам Каналі. У лёгкай атлетыцы жанок ужо традыцыйна адзначыцца Усходняя Эўропа разам із борздымі Аўстралійкамі.

У футбольным турніры адбўўся адбор паводля 16 геаграфічных групаў. Міжнародныя волаты футболу, як Савецкі Саюз і Заходняя Нямеччына, ужо адпалі, пабітыя Баўгарыяй і Польшчай. Напярэдадні алімпіяды турнір звузіцца да чатырох паўфіналістых, праўдападобна наступных: Баўгарыі, Бразыліі, Вугоршчыны й Польшчы. Думаецца, што алімпійскім чэмпіёнам у футболе станецца Вугоршчына.

У плаваньні пабачым змаганьне Амэрыканцаў, Японцаў і Аўстралійцаў. За Аўстралію будуць плаваць маладыя латыскія эмігранты, брат і сястра Ян і Ільза Конрадс. Тыя шчасьлівыя, што здолеюць наведаць алімпіяду, пабачаць апрача слаўных памятак старавечнага Рыму — мадэрнае мастацтва, асабліва архітэктуру, прызначаную да мэтаў алімпіяды, як стадыёны й спартовыя палацы, якімі Італьянцы запачаткавалі „хараство ў бэтоне".

Каб зацікавіць філятэлістых і шырэйшае грамадзтва, ужо 20 краёў вы-

далі паштовыя маркі, прысьвячаныя алімпіядзе.

Зацікаўленыя будуць мець магчымасьць бачыць прабег гульняў на тэлевізійных праграмах Сы-Бі-эС.

Канчаючы, трэба сьцьвердзіць, што ніводзін край ня можа „выйграць" алімпіяды. Лічыць-жа колькасьць мэдаляў, здабытых прадстаўнікамі гаспадарства, няправільна, бо вялікі край мае большыя магчымасьці. Прыкладам, у 1956 г. спартавікі Савецкага Саюзу ўзялі найболып мэдаляў, але калі падзяліць колькасьць мэдаляў на колькасьць жыхарства, дык СССР апыняецца на 18-ым, Амэрыка на 16-ым, а Аўстралія ды малая Фінляндыя перадуюць. Калі лічыць пункты, дык гэта ляпей паказвае разьвіцьцё спорту.

Сочачы вынікі алімпіяды, памятайма словы аднаго із заснавальнікаў, Француза барона Кубэртына: „Галоўная мэта — ня выграць, але браць удзел".

**В. Станкевіч.**

---

## Паўстала патрэбная арганізацыя

20 сакавіка 1960 г. быў закладзены ў Нью-Ёрку „Эўрапейскі Інстытут — інстытут узгадаваньня моладзі эўрапейскіх уцекачоў".

Новая арганізацыя ставіць сабе наступныя заданьні:

1) апекавацца дзецьмі й моладзяй уцекачоў з Усходняе й Сярэдняе Эўропы, што цяпер жывуць пераважна ў Нямеччыне й дзеля розных прычынанаў (благое здароўе, век) ня могуць эміграваць за мора. У Нямеччыне застаецца больш за 100.000 эміграцкае моладзі. Сюды трэба залічыць таксама беларускую моладзь (гл. інфармацыйны артыкул у Но. 5 „БМ").

2) узгадаваць гэтыя дзеці й моладзь на вартасных грамадзян - патрыётаў, зрабіць іх гатовымі да актыўнае працы на дабро сваіх народаў у вызваленай Усходняй і Сярэдняй Эўропе.

3) праводзіць гэтую ўзгадавальную працу праз летнія лягеры, нацыянальныя школы, фаховыя курсы, памагаючы моладзі здабываць асьвету, арганізуючы сярод яе спартовую й адпачынкавую дзейнасьць.

Дзейнымі сябрамі „Эўрапейскага Інстытуту" й сябрамі памагачымі маюць права стацца асобы, арганізацыі й эміграцыйныя таварыствы на ўсім сьвеце. Адным зь першых дзейных сяброў „Эўрапейскага Інстытуту" сталася ЗБМА.

За старшыню новае арганізацыі быў абраны сп. А. Горачэк (Чэх). Ад Беларусаў увайшлі ў урад сп. М. Бэз — заступнік старшыні, і сп. Ю. Станкевіч — сакратар.

Каб адзначыць сваё заснаваньне, „Эўрапейскі Інстытут" выдаў адмысловыя значкі, прыбытак ад якіх мае пайсьці на пакрыцьцё коштаў летняга лягеру для моладзі ўцекачоў у Нямеччыне. Гэты лягер мае быць наладжаны сёлета.

Падтрымайма гэтую ініцыятыву!

Значкі „Эўрапейскага Інстытуту" можна атрымаць, пішучы на адрыс:

"EUROPEAN INSTITUTE"
General Post Office
P. O. Box 1973
New York City, N. Y.



# ЛІТВА — СТАРЫ НАЗОЎ БЕЛАРУСІ

Хіба кажнаму з нас даводзілася адказваць на пытаньні сяброў-Амэрыканцаў на працы ці ў школе: „Адкуль паходзіш з Эўропы? Дзе ты радзіўся?" Пачуўшы, што зь Беларусі, зацікаўлены звычайна пытаецца далей: „Дзе гэта?" і дадае: „Ніколі пра гэты край ня чуў..." Даведаўшыся ўрэшце, што Беларусь ляжыць у Усходняй Эўропе, паміж Польшчай і Расеяй, Амэрыканец дастае ўражаньне, што беларускі народ вельмі малады — відаць толькі што стварыўся, бо-ж нідзе аб ім ня пішацца ў падручніках гісторыі. Відаць, гэта нейкі адломак Расеі, з культурай і мовай вельмі падобнай да расейскай, — разважаюць шмат якія Амэрыканцы, навет тыя, што нам вельмі спрыяюць.

Чаму гэтак выходзіць? Наш народ зусім не малады, ён вельмі розьніцца ад суседніх Палякоў і Расейцаў, мае сваю багатую й слаўную мінуўшчыну ды добра ведамы ў гісторыі — толькі не як Белерусы, а як Літва, Ліцьвіны. Гэтак зваўся наш народ і гэтак звалі нас суседнія народы да палавіны мінулага 19-тага стагодзьдзя. Шмат якія жыхары Браншчыны на ўсходзе Беларусі яшчэ ў 1940-вых гадох звалі сябе Ліцьвінамі.

Літву — гаспадарства нашых прашчураў — знае ўвесь культурны сьвет. Таму, выясьняючы чужынцам аб краі нашага паходжаньня, трэба заўсёды паказваць, што гістарычная Літва й сяньняшняя Беларусь — гэта адна й тая самая нацыя.

Вялікае Княства Літоўскае ўтварылася ў 13-тым стагодзьдзі, задзіночыла блізу ўсе беларускія плямі ды ў часе гаспадараньня вялікіх князёў Альгерда й Вітаўта сталася найдужэйшым і найбольшым гаспадарствам тагачаснае Эўропы. Прастора Вялікага Княства Літоўскага сягала ад Балтыцкага да Чорнага мора. Апрача Беларусаў, на гэтых землях жылі балцкія народы Жмудзь (цяпер завуцца Летувісамі) і Латышы ды Украінцы.

Вялікае Княства Літоўскае было гаспадарствам беларускім. Беларуская мова была ўрадавай мовай, пабеларуску пісаліся дакумэнты й законы гаспадарства, пабеларуску гаварылі міжсобку вялікія князі й шляхта. Пабеларуску пісалі свае рэлігійныя кнігі мусульмане-Татары й Жыды, што жылі ў Ліцьве й карысталіся поўнай рэлігійнай свабодай.

Культура й асьвета Літвы былі на высокім узроўні. Ведамы зборнік законаў — Літоўскі Статут (у беларускай мове) быў доўга ўзорам ўсёй Усходняй Эўропе. Навучоны й друкар др. Пранцішк Скарына з Полацку выдаў у 1517 г. першую друкаваную кнігу ў Усходняй Эўропе — беларускую біблію (яна была трэйцяй друкаванай бібліяй у сьвеце, пасьля нямецкай і чэскай). Беларускія культурныя ўплывы пашыраліся на суседнія землі, а шмат дзе засталіся й дасюль. Прыкладам, друкары Пётра Мсьціславец і Міхал Федаровіч увялі друкарства ў Маскве, а кірылічны альфабэт, зрэфармаваны Беларусам Гальляшом Капіевічам, ужываецца аж дагэтуль. У Маскве цяперашнюю кірыліцу даўжэйшы час звалі „літоўскай азбукай".

Нутранное жыцьцё Літвы было высака разьвітое. Месты Вільня, Менск, Полацак, Смаленск ды інш. карысталіся магдэборскім правам*). У іх красавалі гандаль і рамёствы. Адзін зь літоўскіх канцлераў — Леў Сапега —

---

*) Права гораду на самакіраўніцтва.

быў ведамы па ўсёй Эўропе, як здольны й разумны палітык.

Моцнае й добра зарганізаванае войска нашых прашчураў абараніла Літву ад находу Татараў, якія тады ўжо заваявалі Расею, Украіну й часова частку Польшчы. Палякі й Чэхі, загрожаныя агрэсіяй Немцаў з захаду, стараліся ўвайсьці ў хаўрус зь Літвою. У біцьве пад Грунвальдам у 1410 годзе супольныя сілы гэтых трох славянскіх народаў канчальна разьбілі Немцаў-крыжакоў. Ваенны хаўрус Літвы з Польшчаю перайшоў па нейкім часе ў фэдэрацыю начале зь літоўскай дынастыяй Ягайлавічаў.

На ўсходзе ворагам Літвы было княства Маскоўскае, якое пасьля — ад часоў Пётры І-ага (пачатак 18-га стагодзьдзя) стала звацца Расеяй. Беларускае гаспадарства Літва на працягу стагодзьдзяў змагалася з Масквою й было галоўнай перашкодай маскоўскай экспаньсіі на захад — тэй самай экспаньсіі, што цяпер пагражае ўсяму сьвету. Палі й лясы ўсходняе Беларусі — Смаленшчыны, Магілеўшчыны, Віцебшчыны — гэта магільнікі тысячаў нашых прашчураў, што загінулі, баронячы свой край ад Масквы.

Толькі ў канцы 18-тага стагодзьдзя, пасля таго, як пануючыя клясы Літвы паддаліся чужым культурным уплывам Польшчы, захапіліся чужымі звычаямі ды занядбалі абарону свае бацькаўшчыны, Маскве ўдалося перамагчы й заваяваць наш край. Перамогшы свайго найбольш зацятага ворага, Расея пастанавіла зрабіць усё, каб зламаць нясьціханны супраціў беларускага народу. Гэты супраціў выявіўся найлепш у часе паходу Напалеона на Маскву ды ў паўстаньнях 1831 г. і 1863 г.,калі Беларусы выступілі супраць Масквы, каб аднавіць незалежнасьць свае бацькаўшчыны — Літвы.

Расея добра ведала, што народны адпор толькі тады згасьне, калі новае, што вырасла ўжо ў няволі пакаленьне Беларусаў забудзецца на слаўную мінуўшчыну свайго народу й на ягонае даўгое змаганьне супраць Масквы. Таму Масква пачала зваць Літвой жмудзкі народ, што належыў да гістарычнай Літвы, але сябе Літвой датуль ня зваў і мовы свае ня зваў літоўскай. Нашых прашчураў — запраўдных Ліцьвіноў — пачалі зваць Беларусамі. Беларусяй Маскалі называлі й раней усходнюю частку гістарычнае Літвы — тыя землі, на якіх ішло літоўска-маскоўскае змаганьне. Назовы „Беларусь" і „Беларусы" ня ўжываліся ў нашым народзе ды толькі тады пашырыліся, калі пачалося беларускае нацыянальнае адраджэньне ў 19-тым стагодзьдзі. Тады ўжо Жмудзіны самі пачалі зваць сябе Літвой, і ад таго часу сьведама прысабечваюць гісторыю й славу Літвы. Вольная беларуская прэса й выданьні — зусім правільна — заўсёды завуць калішніх Жмудзіноў **Летувісамі,** а край іхны **Лятувой** (так, як па-жмудзку) — а не Ліцьвінамі й Літвой — бо гэта старыя назовы **нашага** народу **й** краю.

Нам часта здаецца, што пад назовам „Літва" (Lithuania) іншыя народы разумеюць толькі калішнюю Жмудзь і што з гэтым ужо трэба згадзіцца. Але надзіва запраўднае старое значаньне Літвы сустракаецца яшчэ вельмі часта. Зь ім сустрэнецца кажны, хто цікавіцца Усходняй Эўропай, народамі й гісторыяй яе, — і падумаўшы крыху, прыйдзе да дзіўнога, але правільнага выснаву, што апрача сучаснае „Літвы", населенае балцкім народам, ёсьць або была недзе яшчэ **іншая Літва,** што гаварыла славянскай мовай. Падам пару цікавых выпадкаў: калісьці адзін Чэх быў моцна зьдзіўлены, пачуўшы летувіскую мову й не зразумеўшы ані слова. Ён-жа добра памятаў з чэскай гісторыі, што літоўскі князь Жыгімонт Карыбутавіч, якога Чэхі паклікалі ў 1420 г. на свой пасад, гаварыў славянскай мовай. Або папытайцеся маладых Амэрыканцаў жыдоўскага паходжаньня, адкуль іхныя бацькі, і не адзін зь іх адкажа: „Мой дзед — Літвак, зь Меншчыны". Літвакамі завуць сябе Жыды зь Беларусі, каб адрозьніцца ад „Галіцыянэр", што паходзяць з Польшчы або Галіччыны. Старэйшыя Жыды ў Амэрыцы, пачуўшы беларускую гутарку нашае моладзі, адразу пачалі нас зваць „Ліцьвінамі".

Куды падзелася „славянская Літва", нам добра ведама. Гэта Беларусь. Застаецца толькі падказаць гэта тым нашым сябром сярод чужынцаў, якім здаецца, што Беларусы — гэта новая нацыя.

**Ліцьвін.**



# ГЭРБЫ БАРЫСАВА, ДЗІСНЫ Й ВЯЛЕЙКІ



**Барысаў** (зьлева): на срыбным полі дзьве абаронныя вежы з брамай, а над імі — Сьв. Апостал Пётра з ключамі. — **Дзісна** (пасярадзіне): на зялёным полі залаты сноп лёну (сымбаль багатых ураджаяў лёну на Дзісьненшчыне). — **Вялейка:** на чырвоным полі, з правага ніжнага кута да верхняга, намаляваная рэчка Вяльля, на якой плыве вадаплаў з таварамі ў форме двух пакаў і залатога коласа. Вялейка — места рачнога транспарту.

### З ГЕАГРАФІІ БЕЛАРУСІ:

*Найглыбейшае возера на Беларусі — гэта возера Струста, максымальная глыбіня якога 30 мэтраў (100 футаў). Найбольшае плошчаю возера — возера Нараг — 80 кв. км.*

*Найвышэйшы пункт над узроўнем мора на Беларусі — гара Лысая (цяпер Дзяржынская) — 346 м. (1153 фт.) на паўдзённы захад ад Менску.*

*Найніжэйшае месца — 85 м. над узроўнем мора (283 фт.), каля Друзгенікаў.*

# ХРОНІКА

## КЛІЎЛЕНД

**На „Базары",** ладжаным жанчынамі Кліўленду 19-га сакавіка, выступіў танцавальны гурток школьнае моладзі пад кіраўніцтвам сяброўкі М. Лук'янчык. Пасьля кароткае інфармацыі аб Беларусі маладыя танцоры выканалі два народныя танцы — „Мікіту" й „Крыжачок" пад музыку здольнае акардыяністкі О. Дубаневіч. Выступ выклікаў шмат зацікаўленьня пытаньняў й з боку чужынцаў. На ўсе пытаньні трапна адказвалі маладыя школьнікі.

**8-га траўня** быў зарганізаваны ў Кліўлендзе 2-гі фэстываль народнага мастацтва. Ад Беларусаў выступалі танцоры школьнае моладзі пад кіраўніцтвам сяброўкі М. Лук'янчык. Танцы „Мікіта" й „Лявоніха" былі праскаканыя пад музыку О. Дубаневіч і К. Стрэчаня на гітары. Спаміж 20 нацыянальнасьцяў беларуская група заняла адно зь першых месцаў. Здымак танцавальнага гуртка быў зьмешчаны ў газэце „Кліўленд Прэс".

**У музэй народнага мастацтва эмігрантаў**, які існуе пры кліўлендзкай гарадзкой бібліятэцы, аддзел ЗБМА здаў ужо каля 2650 запісаў народных песьняў, кнігу зь беларускім народным арнамэнтам ды іншыя рэчы. Пры ўрачыстым адчыненьні музэю, што было пасьля паказанае на тэлевізіі, выступалі дзяўчаты ў народных строях, рэпрэзэнтуючы розныя нацыянальнасьці. Беларусаў рэпрэзэнтавала сяброўка Іра Каляда.

Пры нагодзе ЗБМА зварачаецца да беларускага грамадзтва з просьбай перадаць рэчы народнага мастацтва (тканіны, ручныя вырабы, малюнкі на народныя тэмы, беларускія краявіды і г. д.) у музэй. Просім пасылаць на адрыс кіраўніка аддзелу ЗБМА:

U. Duniec, 814 Brayton Ave.,
CLEVELAND 13, Ohio.

Рэчы, што застаюцца ў скрынях і шафах, даюць карысьці толькі молі. Затое ў музэі яны застануцца назаўсёды, пашыраючы веды аб беларускім народзе.

**14-га траўня** ладзілася вечарынка ЗБМА. Было шмат гасьцей, асабліва ўкраінскае моладзі. Таксама прыехалі госьці з Дэтройту й зь Лёндану (Канада). Пад музыку аркестры сьпявала сяброўка Іра Каляда. Шчырая падзяка належыцца Жаночаму Згуртаваньню і ўсім дабраахвотным памачнікам.

**Аркестра беларускае школкі.** Апрача аркестры „Палесьсе" між школьнаю моладзяй маем таксама цімала музыкаў, што часта падыграваюць сваім сябром да танцу пры выступах. Цяпер сп. К. Кіслы зарганізаваў іх і вучыць іншых граць на струнных інструмэнтах. Ужо аркестра налічвае 10-ёх юначак і юнакоў.

**Дзень народзінаў сп. К. Кіслага** і яногая грамадзкая праца былі ўрачыста адзначаныя Беларусамі Кліўленду 22-га траўня. Сп. Кіслы кіруе царкоўны хор і сьвецкі хор моладзі, апрача вучэньня музыкі й сьпеву ў беларускай школе. Дырыгента прывіталі — адміністратар хору, М. Гумен — старшыня царкоўнае рады, Ул. Дунец — кіраўнік аддзелу ЗБМА, ды харыстыя падарункам. Дырыгент із свайго боку заклікаў моладзь і старэйшых брацьудзел у хоры. У часе банкету ўсе супольна сьпявалі народныя й патрыятычныя песьні.

**Вітаем** капітана беларускае футбольнае дружыны „Пагоня" й актыўнага сябру ЗБМА Віктара Лукашэвіча і сп-чну Літвінчук зь беларускае калёніі ў Ракфорд (Іліной) з нагоды шлюбу.

Жадаем маладой пары шмат шчасьця ў будучыні (і колькі новых футбалістых)!



## САУТ-РЫВЭР — НЬЮ-БРАНСУІК

**На сьвяткаваньні 42-іх угодкаў** незалежнасьці Беларусі моладзь мясцовага аддзелу ЗБМА паставіла патрыятычную п'есу, напісаную сп. В. Стомам. Сяброўкі Герда Кабушка, Аня Стома ды сябры Міхась Каранеўскі й Юрка Стагановіч выканалі галоўныя ролі.

**30-га красавіка** тутэйшая моладзь брала ўдзел у парадзе ляяльнасьці ў Нью-Ёрку. Усе былі ў народных строях.

Таго-ж вечару аддзел ЗБМА ладзіў вечарынку з буфэтам і лятарэяй. Да танцу грала беларуская аркестра „Вярозка".

У "Neighborhood House", дзе аддзел ЗБМА праводзіць свае зборкі што пятніцы, танцавальны гурток аддзелу наладзіў 13-га траўня малы канцэрт з народнымі танцамі „Лявоніхай" і „Крыжачком".

**Вітаем** сяброўку Герду Кабушку з заканчэньнем сярэдняе школы. Сяброўка Герда ведамая сярод моладзі, як здольная акардыяністка.

**Беларускі драматычны гурток** Саўт-Рывэру паставіў 24-га красавіка п'есу Янкі Купалы „Паўлінка". Галоўныя ролі выканалі: Паўлінкі — Ната Кіркевіч, Сьцяпана Крыніцкага — Міхась Сенька, Адольфа Бычкоўскага — Лявон Шурак, Вінцэся Пустарэвіча — Ігар Шчорс, Якіма Сарокі — Міхась Палюховіч, Альжбеты — сп-ня Коўш, Агаты — сп-ня Цярпіцкая. Ролі гасьцей і музыкаў выканала беларуская моладзь Саўт-Рывэру. Рыхтаваньне п'есы кіравала ведамая артыстка сп-ня І. Цупрык (Жылінская). Удалы паказ „Паўлінкі" быў вельмі прыхільна прыняты публікай. Пажадана, каб драматычны гурток наведаў таксама іншыя беларускія асяродкі.

**Вітаем** Зосю й Валодзю Бычкоўскіх з нараджэньнем сына Зьміцера. Хай-жа ён працягвае беларускую музыкальную традыцыю Бычкоўскіх.

## НЬЮ-ЁРК

**Народныя скокі.** Танцавальны гурток выступіў зь „Лявоніхай" і „Мікітам" у Бруклінскай ІВКА 29-га красавіка на вечары народных скокаў, ладжаным на карысьць сусьветнай арганізацыі ІВКА. Мікола Галавач акампаніяваў на акардыёне й пасьля зайграў пару агульных танцаў.

**Парад ляяльнасьці.** 30-га красавіка сяброўкі й сябры мясцовага аддзелу ЗБМА разам із моладзяй зь Нью-Джэрзы й іншымі беларускімі арганізацыямі бралі ўдзел у чародным парадзе ляяльнасьці ўздоўж 5-ага Авэню ў Нью-Ёрку. Уся беларуская моладзь была ў народнай вопратцы.

**Канец сэзону ў ІВКА.** 27-га траўня сяброўскім вечарам пад бруклінскім небам (на страсе 12-ціпавярховага будынку ІВКА) аддзел ЗБМА правёў сваю апошнюю зборку ў гэтым сэзоне.

На лета ёсьць пакульшто наступныя пляны: рыхтаваньне да 9-га Зьезду ЗБМА, наезд да сп. Бобрыка ў Кэтскільскія горы, спартовыя заняткі, выезд на чаўны (кэню).

**Валейбол—дзяўчаты.** Засноўваецца валейбольная дружына ЗБМА—Нью-Ёрку. Арганізатарка, сяброўка Яра Тумаш, заклікае ўсіх зацікаўленых далучыцца.

**Узнагарода вучню.** Кастусь Юхнавец, вучань 6-ай клясы, здабыў 1-ае месца ў навуковым конкурсе, які ладзіла ягоная школа на Стэтэн Айлэнд (частка места Нью-Ёрку). Ягоны пахаз — непразрысты пражэктар — атрымаў таксама 2-ое месца ў конкурсе ўсіх школаў Стэтэн Айлэнду.

**Вітаем** маладых бацькоў, Марысю й Віцьку Паланевічаў з нараджэньнем сына Паўлы.

**Таксама вітаем** Элеанору (Кінусю) й Леаніда Норыкаў з нараджэньнем дачкі Ніны.

Хай растуць бацьком на пацеху й Беларусі на карысьць!

**Рэфэрат.** 16 чырвеня ў памешканьні Беларускага Грамадзкага Цэнтру ў Брукліне быў прачытаны рэфэрат Ю. Станкевічам „Элекранічныя вылічальныя машыны". Рэфэрат ладзіўся ў праграме Беларуска - Амэрыканскага Акадэміцкага Т-ва.

### ВІТАЕМ!

— Сяброўку **Олю Мельяновіч** з заканчэньнем сярэдняе школы. Оля будзе весьці далей школьную навуку практыкай у шпіталі ў спэцыяльнасьці сястры міласэрдзя. Спадзяёмся, што Оля знойдзе й надалей час сярод шпітальных дыжураў на актыўныя заняткі ў танцавальным гуртку й іншым арганізаваным жыцьці ЗБМА.

Таксама вітаем із заканчэньнем школы:

—Сяброўку **Яру Тумаш,** якая пляную пачаць студыі мэдыцыны.

— **Моніку Вэльц,** сяброўку танцавальнага гуртка ЗБМА.

---

**АБАМСІ** вітае свайго сябру Адварда Бабіцкага й сяброўку Марыю Крыс, якія пабраліся 20 красавіка. Вясельле было вельмі гучнае й багатае. Маладой пары ўсе сяброўкі й сябры арганізацыі жадаюць памысьнасьці ў сужэнсьцьве, ды за гадок каб быў сынок.

### ЧЫКАГА

**Удзел АБАМСІ ў сьвяткаваньні** сакавіка. З нагоды сьвяткаваньня 25-га сакавіка Арганізацыя Беларуска-Амэрыканскае Моладзі ў Штаце Іліной (АБАМСІ) выслала інфармацыйныя лісты: мэру места Чыкага, губэрнатару штату Іліной, кангрэсмэнам і сэнатарам зь Іліной і прэзыдэнту Айзэнгаўэру. Сэнатар Дэрксэн, рэспубліканскі лідар, прачытаў у сэнаце ЗША інфармацыю аб 25-ым сакавіку, што была таксама ўведзеная ў Кангрэсавыя Записы. Губэрнатар Іліной абвесьціў 25-га сакавіка Беларускім Днём.

26 сакавіка АБАМСІ наладзіла радыёпраграму, прысьвячаную 42-ім угодкам абвешчаньня незалежнасьці. У яе ўвайшлі рэфэрат, народныя і маршавыя песьні ды беларускі нацыянальны гімн.

У пачатку сакавіка урад АБАМСІ напісаў у мясцовую прэсу артыкулы аб Беларусі і аб 25-ым сакавіку. На гэта было атрымана шмат тэлефонных і пісьмовых водгукаў ад Амэрыканцаў беларускага паходжаньня й ад іншых. Шмат зь іх прасілі кніжак аб Беларусі ў ангельскай мове, іншыя горача віталі нашыя досягненьні й жадалі часьцей бачыць такія зацемкі аб Беларусі ў амэрыканскай прэсе. Лісты прыходзілі ня толькі з Чыкага й ваколіцаў, але навет і зь іншых штатаў.

**Радыёперадачы.** Пачынаючы ад 26-га сакавіка АБАМСІ мае свае сталыя радыёперадачы. Тымчасам адбываюцца яны раз на месяц, але робяцца старанні каб былі раз на тыдзень. Радыёпраграма завецца „Нёман".



## ДА НАС ПІШУЦЬ:

„В.Б.Г." — гэтыя літары красаваліся некалі на бел-чырвона-белым трыкутніку пры шапках беларускай моладзі, што вучылася ў віленскай Беларускай Гімназіі. Хлапцоўская шапка ці дзявочы бэрэт з гэтымі літарамі былі гонарам беларускае моладзі, што пражывала ў калішняй Польшчы, — былі адначасна ціхой, скрытай зайздрасьцяй тае часткі моладзі, якой абставіны не дазволілі пераступіць парог беларускае гімназіі".

Гэтак пачаў пісаць Сьв. Пам. сп. У. Кабушка ўспаміны з часу свае навукі ў Віленскай Беларускай Гімназіі.

**Сп. П. Кулеш** надаслаў у рэдакцыю „БМ" артыкул, у якім ён перш за ўсё заклікае гадунцоў Віленскае Беларускае Гімназіі закончыць успаміны,пачатыя сп. Кабушкам. Сп. Кулеш заклікае апрача таго й гадунцоў іншых беларускіх гімназіяў і школаў Заходняе й Усходняе Беларусі апрацаваць успаміны із сваіх школьных гадоў.

Нажаль, дзеля нястачы месца, „БМ" ня можа цяпер зьмясьціць гэты заклік і шырэй заняцца справай школьных успамінаў. Раім падаць артыкул у газэту „Бацькаўшчына", што выходзіць часьцей. Пры гэтым хочам запэўніць, што „БМ" ахвоча зьмесьціць апрацаваныя ўжо ўспаміны абсальвэнтаў беларускіх школаў.

***

...Мушу ў чужым краі
Веку дажываць
І на другім сьвеце
Спакою ня маць.

Бо-ж сваё патомства —
Гэты скарб вялікі —
У чужым краю мушу
Пакінуць навекі.

...Бачыш, краю родны,
Мы мусім разважыць,
Каб сабраць скарб разам,
Ён нам шлях пакажыць.

Станем мы багатшы,
Сілы болей будзе,
А як час настане,
Усе наставім грудзі...

Як добра выражаюць гэтыя радкі вершу сп-ні **Э. Асновіч** з **Францыі** пачуцьці беларускае маці на чужыне!... І мы згаджаемся зь ёю: „Мы мусім разважыць, каб сабраць скарб разам — ён нам шлях пакажаць!"

Сп-ня Асновіч ужо блізу 20 год, як жыве ў чужым асяродзьдзі, ня чуючы свае мовы. Яна вельмі цікавіцца творамі беларускай мастацкай літаратуры.

Шчыры дзякуй за Вашыя вершы! Адначасна з гэтым нумарам „БМ" пасылаем Вам успомненыя Вамі кніжкі.

---

*Часапіс БМ агульна досыць добры й для моладзі найбольш адпаведны. Пажадана, каб у будучыні стараціца пакрысе зьмяшчаць інфармацыйныя матар'ялы аб Беларусі ў вангельскай мове, а гэта для тых малодшых, якія вельмі дрэнна чытаюць пабеларуску.*

*Кліўленд, ЗША.* Сяргей Карніловіч

# НАШАЯ МОЛАДЗЬ

Шмат прыгожага пішацца ў нашай прэсе пра беларускую моладзь у Амэрыцы, пра тое як яна вучыцца, працуе ды праводзіць свой вольны час. Шмат таксама пішацца пра ўдзел моладзі ў нашым грамадзкім жыцьці. Гэткае пазытыўнае насьвятленьне жыцьця й дзейнасьці нашае моладзі праўдзівае, але няпоўнае. Пра некаторыя адмоўныя рысы нашае моладзі, якія аўтар (што яшчэ сам залічвае сябе да моладзі) спасьцярог за час свайго перабываньня ў Амэрыцы, варта тут падзяліцца з чытачом.

Гэтага артыкулу ня трэба ўважаць за спробу ацэны беларускае моладзі ў Амэрыцы, бо для поўнай характарыстыкі моладзі трэба было-б пісаць і пра ўсе дадатныя яе бакі. Мэта артыкулу — паказаць адмоўныя рысы, якія часткa нашае моладзі ўспрыймае ды зь якімі трэба змагацца. Прыклады, што будуць пададзеныя, на шчасьце, не становяць агульную зьяву; яны аднак не на гэтулькі рэдкія, каб пра іх можна было маўчаць.

Пачнем ад дачыненьня моладзі да старэйшых і знаёмых. Шмат моладзі проста не пазнае сваіх знаёмых або знаёмых сваіх бацькоў. Некаторыя пазнаюць знаёмых толькі ў сваёй хаце або пры сваіх бацькох; некаторыя пазнаюць тады, калі няма паблізу старонніх людзей.

Нашая моладзь звычайна гутарыць пабеларуску із сваімі бацькамі ды старэйшымі знаёмымі. У рэдкіх беларускіх сем'ях гутарачь толькі паангельску. Гэта здараецца тады, калі бацькі самі хочуць навучыцца паангельску, або калі яны хочуць, каб дзеці вучыліся (відаць, ад іх) „правільна" гутарыць паангельску.

Цураньне беларускага паходжаньня назіраецца даволі часта ў большай ці меншай меры сярод моладзі. Гэтае цураньне пачынаецца даволі рана, суправаджае моладзь у каледж і пасьля на працу. Бывалі выпадкі, што моладзь мяняла свае прозьвішчы й навет імі, што былі дадзеныя ёй бацькамі пры нараджаньні. Быццам-бы, зьмяніўшы прозьвішча, лягчэй рабіць кар'еру. На чым гэты мэтад лёгкай кар'еры палягае ў запраўднасьці — ніхто ня ведае; найменш гэта ведаюць тыя, што карыстаюцца гэткім мэтадам. Што да навукі, дык нашая моладзь удала спраўляецца із сваймі школьнымі абавязкамі ў пачаткавай і сярэдняй школе. На нашую думку, вымогі тут у пачатковых і сярэдніх школах меншыя, чымся ў вадпаведных эўрапейскіх школах. Затое вымогі гэтыя раптоўна ўзростаюць зь пераходам у каледж, і тут у шмат каго з нашае моладзі пачынаюцца цяжкасьці. Былі выпадкі, што нашыя хлапцы й дзяўчаты, добра закончыўшы сярэднюю школу, не маглі датарнавацца да вымогаў у каледжы й мусілі кідаць каледж пасьля аднаго ці двух гадоў навукі. Прычынай гэтаму была хіба не на гэтулькі слабая дарыхтаванасьць да каледжу, наколькі нястача моцнае волі пасьвяціцца шэрай штодзённай працы над кніжкаю, тымчасам як сябры, што не пайшлі ў каледж, могуць езьдзіць у сваіх машынах ды бястурботна глядзець тэлевізію.

Вольны час, ды наагул шмат часу, моладзь праводзіць пры тэлевізіі. Вязумоўна, нічога благога няма ў умеркаваным глядзеньні добрых праграмаў на тэлевізіі. Зло пачынаецца тады, калі хтось пачынае жыць пры тэлевізіі: есьці пры тэлевізіі, вучыцца пры тэлевізіі ды спаць пры тэлевізіі. Ізноў-жа, ня ўсе праграмы на тэлевізіі добрыя, а карысных праграмаў яшчэ менш. Моладзь чамусь ня любіць глядзець добрых павучальных праграмаў, а траціць свой час на пустыя праграмы, што нічога ёй не даюць і нічым не ўзбагачаюць. Шмат каштоўнага часу траціцца пры тэлевізіі, часу, якога ніколі пасьля ня вернеш.

Тэлевізія часта спрычыняецца да сямейных непаразуменьняў, калі ня ўсе ў сям'і пагаджаюцца што да выбару праграмы. Сытуацыя бывае асабліва няпрыемная, калі праграму тэлевізіі перапыняе прыход гасьцей ці знаёмых ды калі бацькі захочуць выключыць тэлевізію або зьмяніць праграму. Разазлаваны хлапец ці дзяўчына звычайна паказвае сваю рэакцыю незадаволенай мінай, часам нявелтлівай заўвагай ды дэманстрацыйным выхадам з пакою, стукаючы пры гэтым дзьвярма.

Да выраслага жыцьця моладзь тут рыхтуецца „навукова" па кніжках. Розных кніжак і часапісаў няпэўнае вартасьці, разьлічаных на пэрыяд фізычнага дасьпяваньня моладзі, тут даволі . Часапісы гэтыя беспатрэбна прысьпяшаюць працэс пераходу з моладзі ў вырослыя. Чаму не пакінуць гэтага працэсу ягонаму нармальнаму ходу? Час маладосьці такі кароткі, яго толькі трэба ўмець належна выкарыстаць. Усё іншае прыйдзе само сваім часам.

Вось колькі спасьцярогаў над нашай моладзяй. Памеры гэтага артыкулу не дазваляюць падаць іншых падобных прыкладаў. Цяпер варта спыніцца крыху над прычынамі, што вядуць да ўспрыйманьня нашай моладзяй нядобрых звычак, ды над спосабамі змаганьня зь імі. Прычыны гэтыя рознага характару ды часта ад нас незалежныя. Прыкладам, мы ня можам шмат зьдзеяць у справе амэрыканскага школьніцтва й тэлевізіі. У гэтым выпадку аднак цешыць тое, што штораз болей чувать паважных галасоў з боку амэрыканскіх дзяржаўных і грамадзкіх дзейнікаў, якія дамагаюцца рэарганізацыі школьніцтва ды кантролю над тэлевізіяй. Не зважаючы на ўсё, бацькі могуць шмат прычыніцца да палепшаньня адукацыі ды ўзгадаваньня сваіх дзяцей. Яны могуць памагчы дзецям укласьці плян заняткаў у школе (сярэдняй) ды выбраць больш карысныя дысцыпліны, яны павінны мець нагляд над карыстаньнем тэлевізіяй і над тым, што іхныя дзеці чытаюць. Так робіцца ў шмат якіх амэрыканскіх сем'ях.

У цураньні свайго паходжаньня й сваіх знаёмых выяўляецца кamплекс

(Працяг на бал. 16)

## ЗНАХОДКА РЭШТАК МАМАНТА НА БЕЛАРУСІ

У красавіку 1959 году ў кар'еры цагельнага заводу гораду Петрыкава была знойдзеная ў вельмі добрым стане вялікая частка шкілету мамaнта. Знойдзеныя рэшткі ў вадкладах, якія належаць да пачатку другое ледавіковае пары (Дняпроўскае алядненьне, ці Рыскае алядненьне). У гэных адкладах — гэта першая знаходка на Беларусі. Раней рэшткі мамaнта на Беларусі былі знойдзеныя на Магілеўшчыне, але ў вадкладах пазьнейшага часу.

Апошняя знаходка мае вялікае значаньне для ўдакладненьня часу зьяўленьня мамaнта на беларускіх прасторах.

**Яны памерлі, каб жыла Бацькаўшчына. Жывеце вы, Бацькаўшчына не памерла. Памажэце замацаваць гісторыю Слуцкага Паўстаньня. Злажэце ахвяру на выданьне Слуцкага Альманаху. Наклейвайце гэтыя маркі на лістох і пачкох. Пашырайце праўду аб Беларусі!**

**Беларуская моладзь! Пашыраць гэтыя маркі — нашая работа!**

**(Значок)**

**НАШАЯ МОЛАДЗЬ** (працяг з бал 15)

меншвартаснасьці. Гэта вельмі шкодны камплекс, на яго складаецца шмат прычынаў, адна зь якіх — гэта стагоддзі нацыянальнага й сацыяльнага уціску нашага народу. З гэтым камплексам трэба вельмі змагацца ад малых год дзіцяці. Структура амэрыканскага жыцьця можа быць тут дапаможным фактарам. Трэба паказваць дзецям, што будучыня іхная залежыць толькі ад іх самых. Моцны характар, воля, добрая адукацыя й ўзгадаваньне ды працавітасьць — тыя адзіныя фактары, што вызначаюць чалавеку месца ў грамадзтве. Трэба падаваць прыклады тых нашых суродзічаў, што займаюць сяньня адказныя становішчы ў грамадзкім, эканамічным ды культурным жыцьці Амэрыкі. Прыкладаў такіх можна знайсьці шмат.

Іншыя ізноў вышэй пададзеныя прыклады нядобрых рысаў нашае моладзі сьветчаць пра нястачу пашаны да сваіх бацькоў ды да нашых традыцыяў. Наагул трэба сказаць, што трагедыя моладзі ў тым, што яна губляе добрыя беларускія традыцыі, а не патрапляе, або ня мае магчымасьці ўспрыймаць лепшых амэрыканскіх традыцыяў. Затое яна лёгка ўспрыймае ўсё павярхоўнае, што лёгка даецца, але што не заўсёды добрае. Важнае заданьне бацькоў — перадаць сваім дзецям нашыя традыцыі ды дапамагчы ім распазнаць і ўспрыняць лепшыя амэрыканскія вартасьці. Вялікай дапамогай бацьком у перакназаньні беларускіх традыцыяў можа быць Беларуская Царква й беларускія арганізацыі.

**В. Е.**

**Рэдкалегія:** Я. Запруднік, В. Кіпель, Ю. Станкевіч, В. Станкевіч (Гал. Кір ЗБМА), Б. Русак.
**Карэспандэнты:** Ул. Дунец, Н. Жызьнеўскі.
**Адміністратар:** Ю. Станкевіч.
**Тэхнічны рэдактар:** В. Мельяновіч.
**Кальпартаж:** Рая Станкевіч і мясцовыя прадстаўнікі.